Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

24-30 студзеня 1997 года

# Рэгіянальная газета

№4 (92)

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ




## "Вярніце нам ксяндза Казіміра",—

**на каленях прасілі парафіяне касцёла Узвышэння Святога Крыжа ў біскупа Гродзенскай епархіі Аляксандра Кашкевіча. Іх не пачулі. Падобную сітуацыю, што склалася ў касцёле, ніводны з вернікаў-парафіянаў не можа прыгадаць.**

*АСРАВЕЦ-ГРОДНА. Амаль два з паловай гады прайшло ад таго, як у астравецкую парафію, што адносіцца да касцёла Косма і Дзям'яна, быў накіраваны ксёндз Казімір Жывалеўскі. Разам з ім праводзіў богаслужэнні і ксёндз-пралат Алёйза Томкавіч— старэйшы па ўзросце (мае каля 90 гадоў) і сане. З прыездам ксяндза Жывалеўскага жыццё ў парафіі значна ажывілася. У касцёл пацягнуліся дзеці, бо ўмее ён з нейкай асаблівасцю знайсці да іх падыход. Адчувалася гэта і па тым, як ён вывучаў з імі біблейскія запаведзі, вучыў цудоўным песням на гітары і нават хадзіў у паходы. Служэнні праводзіў на беларускай мове.*

Але ўсё ж галоўнай заслугай перад парафіянамі была ідэя і арганізацыя рэстаўрацыі другога касцёла— Узвышэння Святога Крыжа, у якім раней размяшчаліся склады мясцовага райспажыўсаюза. І калі пачаліся на ім аднаўленчыя работы, то праблемаў з'явілася шмат. Неставала грошай, не было матэрыялаў, часам, нягледзячы на тое, што працавалі ўсе людзі з парафіі, ксяндзу Казіміру даводзілася самому выконваць многія работы. Аднаго разу гэта магло завяршыцца трагічна, бо падчас работ па перакрыцці даху ён зваліўся. На шчасце, абышлося. Летась адбылося і асвячэнне касцёла, хаця ён яшчэ патрабуе нямалага. Здавалася, усё ішло добра.

Але 6 студзеня ксяндзу Казіміру ўручаюць дэкрэт, падпісаны біскупам Гродзенскай епархіі, у якім сказана, што ён пераводзіцца ў адзін з касцёлаў Гродна. Людзі былі ў роспачы. Яны не ведалі на той момант прычын такога нечаканага пераводу, магчыма, калі верыць словам парафіянаў, камусьці недаспадобы было тое, што малады ксёндз імшы адпраўляў на беларускай мове (гэта, дарэчы, было і зручным, і зразумелым усім людзям, а асабліва моладзі), не браў грошы за правядзенне абрадаў у маламаёмных парафіянаў, дапамог грашыма сям'і, у якой згарэў дом, і многае іншае. Людзі плакалі, не спалі начамі, перажывалі.

Дзесятага студзеня пасля завяршэння імшы людзі вырашаюць праверыць свае здагадкі. З усімі сумненнямі яны звяртаюцца да ксяндза-прапата Алёйзы.

— Гэта не мая воля, а біскупа Аляксандра Кашкевіча,— гаворыць той.

Яшчэ праз два дні ў Гродзенскую епархію накіроўваецца група з чатырох чалавек з просьбай вярнуць назад у Астравец ксяндза Казіміра. Дарэмна. Назаўтра, пасля вяртання гэтых людзей з Гродна, парафіяне на чале з касцельным камітэтам пішуць прашэнне да біскупа і збіраюць подпісы. Падпісваюцца пад ім людзі з Астраўца, з вёсак Палушы, Кавалі, Задворнікі, станцыі Гудагай. За адзін толькі дзень падпісаліся пад прашэннем 1035 чалавек.

*Заканчэнне.*

*Заканчэнне на 2-й стар.*



*Яны апынуліся ў цэнтры ўвагі: кс. Казімір Жывалеўскі (злева), кс.-пралат Алёйза Томкавіч, біскуп Аляксандр Кашкевіч (унізе)*

## Трэці шлях "Трэцяга сектара"

*МАЛАДЗЕЧНА. Мясцовы цэнтр грамадскіх ініцыятыў сумесна з Інстытутам дэмакратыі ва Усходняй Еўропе IDEE (Варшава) правялі рэгіянальны семінар грамадскіх арганізацый, прысвечаны праблемам "трэцяга сектара".*

"Трэці сектар"— грамадскія арганізацыі, у адрозненне ад "першага сектара" (дзяржаўныя ўстановы) і "другога" (недзяржаўныя вытворчыя і камерцыйныя структуры), не могуць разлічваць на эканамічны эфект ад сваёй дзейнасці. Не жадаючы трапляць у залежнасць ад палітычных арганізацый, часта становяцца перад дылемай— або перастаць існаваць, або пайсці на паклон да палітыкаў ці дзяржавы.

Але для "трэцяга сектара" ёсць, аказваецца, трэці шлях— звярнуцца па дапамогу да фундатараў, якія па розных прычынах (часцей за ўсё гэта дабрачыннасць) самі шукаюць ініцыятывы ў грамадстве, якія б можна было падтрымаць.

На семінары прадстаўнік IDEE ў Беларусі Павел Казанэцкі пазнаёміў з тым, якім чынам можна складаць заяўкі на выдзяленне грантаў на падтрымку грамадскіх арганізацый самымі рознымі фондамі-фундатарамі.

Вы поўныя энергіі і маеце патрэбу ў падтрымцы сваіх ініцыятыў? Калі ласка, звяртайцеся за дадатковай інфармацыяй ў "Рэгіянальную газету".

*Мікола ГАЙДУК.*

### Выйграй тэлевізар

## ЁН МАЕ ШАНЦ

*Рэдакцыя пачала атрымліваць канверты з копіямі падпісных квіткоў на "Рэгіянальную газету". І першым быў падпісчык (падпісчыца?) з Вілейкі Н. Станевіч. Ён (яна?) ужо мае шанц выйграць у красавіку наш прыз— "кухонны" тэлевізар "Верас".*

А вы такога шанцу не маеце? Тады паспяшайцеся на пошту. Для ўдзелу ў нашай латарэі вам дастаткова падпісацца на "РГ" на 2-гі квартал (красавік-май-чэрвень). Тыя, хто падпісаныя ўжо на першае паўгоддзе, зразумела, таксама могуць паспрабаваць выйграць наш прыз. Вышліце на адрас рэдакцыі ксера-, фота- або факс-копію падпісного абанемента і вы станеце ўдзельнікам латарэі. У выпадку ўдачы вам трэба будзе прад'явіць арыгінал падпісного абанемента.

Усяго 24 тысячы рублёў— і вы можаце стаць уладальнікам тэлевізара "Верас".

*Рэдакцыя "РГ".*

### Адным абзацам

**П**асля доўгіх і ў некаторых выпадках нечаканых прызначэнняў, нарэшце, поўнасцю сфарміраваны Савет міністраў краіны. У яго складзе— 48 міністраў і старшынь Дзяржаўных камітэтаў. Узначальвае яго, па-ранейшаму, выконваючы абавязкі прэм'ер-міністра Сяргей Лінг.

**18**-19 студзеня ў Мінску прайшоў чарговы з'езд Партыі камуністаў Беларускай. Каля трохсот дэлегатаў прадстаўлялі 15 тысяч членаў партыі. У рэзалюцыі дэлегаты негатыўна ацанілі сацыяльна-эканамічнае становішча на Беларусі. Таксама адзначаецца, што ў краіне пад выглядам рэферэндуму адбыўся дзяржаўны пераварот, да кіруючага рэжыму партыя знаходзіцца ў апазіцыі. З'езд прыняў рэзалюцыю аб інтэграцыі, у якой падтрымаў збліжэнне Беларусі і Расіі, аднак не за кошт страты Беларуссю сваёй дзяржаўнасці.

**З**атрыманая па падазрэнні ва злоўжыванні службовым становішчам экс-старшыня Нацыянальнага банка Т. Віннікава шосты дзень адмаўляецца ад ежы. Вакол гэтай справы шмат чутак і плётак, што распаўсюджваюцца дзеля таго, каб настроіць грамадскую думку супраць затрыманай. Ідзе разлік на тое, што чым больш гучныя і неверагодныя чуткі, тым хутчэй у іх паверыць абывацель.

**С**ёлета Мінгарвыканком пачне ажыццяўленне ідэі аб будаўніцтве двух узорна-паказальных гарадкоў, што складаюцца выключна з малапавярховых дамоў. Аднак аднапавярховымі яны ўсё ж не будуць, аб чым сведчаць скрозь двух-трох-павярховыя палацы вакол беларускай сталіцы. Ажыццяўленне гэтага праекта абыдзецца казне нятанна— па розных адзнаках, толькі падвядзенне камунікацыйных сетак да такіх забудоў перавысіць гадавое фінансаванне падобных работ па ўсім горадзе. Калі ж жыхарамі, як і ў іншых падобных "царскіх сёлах" стануць чыноўнікі і наменклатуршчыкі, што маюць вострую патрэбу, то пытанне кошту галоўным не стане.

**У** хуткім часе адзіны недахоп лідскага піва— непрацяглы тэрмін захоўвання— будзе пераадолены з дапамогай аўстрыйскай фірмы. У пабудаваным для гэтага новым цэху на імпартнай лініі будуць выпускаць два віды піва з тэрмінам захоўвання ад 3 месяцаў да года. На новай лініі будуць разліваць і закаркоўваць ажно 24 тысячы бутэлек у гадзіну— удвая больш, чым разліваецца цяпер.



### Навіны

## ГРАУС запрашае

*ВІЛЕЙКА. Лепшы на Вілейшчыне спартыўны комплекс пабудаваны на сродкі МУС.*

На ўрачыстым адкрыцці прысутнічаў міністр Валянцін Агалец. Міліцыянеры не абмежаваліся сваім аддзелам і пускаюць у залу мясцовыя арганізацыі і ўстановы. Там плануецца праводзіць гарадскія спаборніцтвы па валейболе, адкрыць дзіцячыя спартыўныя секцыі.

Безумоўна, спарткомплекс стане папулярным месцам сустрэч гараджан, устанаўлення кантактаў. Ужо цяпер разам з беларускімі міліцыянерамі трэніруюцца расійскія ваенныя з мясцовай вайсковай часці.

*Аддзел інфармацыі.*

## Каму крэдыт?

*МАЛАДЗЕЧНА. Вытворцам, якія наладзяць выпуск якасных і канкурэнтаздольных тавараў народнага спажывання, створаць новыя працоўныя месцы, улады абяцаюць фінансавую дапамогу ў выглядзе субсідый і крэдытаў.*

Зменшыла аб'ёмы выпуску баянаў, гармонікаў ды акардэонаў фабрыка музычных інструментаў. Новы асартымент тавараў распрацоўваецца з улікам попыту. Гэта мэбля, прылады для кухні і гаспадаркі.

На заводзе "Спадарожнік" пачынаецца серыйны выпуск бесправодных тэлефонных апаратаў, аўтастэрэамагнітол і ўсехвалевых тэлевізійных антэн.

ЗЛМК асвойвае вароты з вертыкальным пад'ёмам, цяпліцы пад шкло, зборныя металічныя гаражы. Многія прадпрымальнікі горада карыстаюцца гандлёвымі кіёскамі заводскай вытворчасці.

*Наталля РАБЧАНКА.*

## Смех у школе

*ВАЛОЖЫН. Няроўская базавая школа з невялікай вёскі пераехала на цэнтральную сядзібу ў Адамава.*

Стаяла яна сіроцінаю ў маляўнічым месцы, на беразе ракі і пакрысе парахнела. Але неўзабаве загучаў у ёй дзіцячы смех. Як паведаміў старшыня Сакавіцкага сельсавета Уладзімір Бітэль, школа выкарыстоўваецца пад інтэрнат. І першыя яго жыхары— сям'я Астрамовічаў, перасяленцаў з Гомельшчыны. Цяпер на пакінутай спартыўнай пляцоўцы двое дашкалят дрэсіруюць дварняжку.

*Аддзел інфармацыі.*

## Тэлевізары, тэлевізары...

*СМАРГОНЬ. Дабрачынная акцыя "Мы—дзецям" закончылася святам у школе-інтэрнаце.*

Госці прыходзілі не з пустымі рукамі. Калі дарослыя неслі нават тэлевізары, то вучні, наведвальнікі Дома творчасці юных— алоўкі, цукеркі, лялькі. Намеснік старшыні мытнага камітэта краіны таксама ўручыў інтэрнатаўцам тэлевізар.

*Тарэса КУМІШЧА.*



